# ЦАРКОЎНЫЯ КАЗАНЬНЯ

**ШТОМЕСЯЧНЫ БЕСПЛАТНЫ ДАДАТАК ДА ЧАСОПІСІ**

**„Праваслаўны Беларус“**

| Год 1. | Месяц Ліпень 1925 г. | Сшытак 2. |
|---|---|---|


## Абавязкі хрысьціяніна.

Праваслаўныя хрысьціяне, што вы павінны рабіць, калі відзіце брата свайго творучым грэх? Вы павінны па-брацку навучыць перасьцярагчы яго ад худога, наставіць на шлях праўды.

Вы скажэце: ці ня духоўных пастыраў гэта справа? А я адкажу вам, што ня толькі пастыраў духоўных, але і ваша. Пастыр павінен думаць аб усіх вас, як аб стадзе сваім, якое яму даручана, а вы адзін аб другім, як часткі аднаго цела, як дзеткі аднэй мацеры—Сьвятой Царквы. „Для таго ты маеш і розум, і язык, і вусны, каб наставіць бліжнага... Толькі нямая скаціна ня думае аб блізкім і не аткызываець ні за кога“. Гэта словы вялікага вучыцеля і сьвяціцеля сьв. Івана Златаустага.

Я-ж скажу вам, шмат ёсьць між вамі лянівых, нядбайных хрысьціян, якія толькі імя носюць хрысьціянскае, а ў жыцьці сваім зусім не выкановываюць паставаў Царквы Хрыстовай: рэдка ходзюць ў царкву Божую, не сьвяткуюць сьвяточных і нядзельных дзён, па 5 і на 10 і больш гадоў ня бываюць ў споведзі і ні прыймаюць Цела і Крові Хрыстовай; ні мала і такіх, што служаць толькі дурным прыкладам для другіх: пьянствуюць, распусьнічаюць, буянюць, крыўдзюць бацькаў і творуць шмат чаго іншага і горшага... ПабойцесяБога і дзеля спасеньня душы сваей ня йдзеце за гэтымі духоўна-хворымі блізкімі вашымі. Ляніўцаў да Царквы Божыей—вядзіце ў яе; запамятаўшым споведзь і Сьв. Прычасьць, напамінайце аб гэтым; пьяніц і распушчонікаў угаварывайце, каб пакінулі дрэнная прывычкі свае і паправіліся.

Апостал Хрыстоў Якаў гаворыць: „Браты, калі хто з вас наставіць грэшніка на пуць ісьціны, спасець душу ад сьмерці, цакрые многа грахоў“. (Ік. V. 19—20).

Памятайце гэта, другі, і пастанаўляйце блізкіх вашых на пуць спасеньня, калі яны сыйдуць з яго.

---

## Казаньне у 4 нядзелю па Тройцы

„Прамоў адно слова, і выздаравеець слуга мой". (Мат. VII, 8),—сказаў Хрысту сотнік, просючы ісьцяліць яго хворага слугу. Якая моцная была вера ў гэтага ваякі! Сьв. ап. Фама, які бачыў столькі чудаў Спаса, ня лёгка паверыў у васкрасеньне з мёртвых свайго Вучыцеля, а гэты сотнік веруець адразу, ні сумневаючыся ні на мінуту... Дзеля гэтага Госпад пахваліў яго веру і паставіў яе, як прыклад для другіх:

—„Праўду кажу вам—прамовіў Хрыстос—навет у Ізраеля не знашоў я такой веры". (Мат. VIII, 10).

А ці маеце веру вы, брацьце? І як вы веруеце ў Сына Божага?—вось пытаньня вялікай вагі,—першыя ў радзе іншых пытаньняў людзкога духу; ад іх залежыць жыцьцё і сьмерць на заўсёды на цэлую вечнасьць. „Хто веруець у Сына. маець жыцьцё вечнае, а хто ня верыць у Сына, ня ўвідзіць жыцьця, а гнеў Божы перабываець на ім". (Ін. III. 36).

Пытацца: ці вы веруеце і як, веруеце?—значыць: ці вы хрысьціяне і якія вы хрысьціяне? Інакш—кто ш, мы ёсьць? Няхай ніхто ня думаець, што для нас, каторыя называемся хрысьціянемі і выкановываем пэўныя наказы нашай веры, гэтыя пытаньня зусім лішнія. Корынфяне, да якіх ап. Павел пісаў два пасланьня, так сама былі хрысьціянемі і напэўна лепшымі за нас, а тым часам ап. Павел знайшоў неабходным напісаць ім: „У сябе вы дознайцеся, ці ў веры вы?" (II кор. XIII, 5).

Можна быць хрысьціянінам толькі па назову, ня будучы хрысьціянінам у сэрцы ці на дзеле. Дзеля гэта і трэба нам дазнацца ў саміх, ці шчырыя мы хрысьціяне?

Першае, на што мы мусім зьвярнуць тут сваю увагу, ёсьць навука веры:

„Ніхто ня можаць быць спасён інакш, як цераз ісьціну" (Цім. I; Ін. XVII, 17).

Ці вы вападаеце гэтай ісьцінай? Ці маеце тую ісьцінную-праўдзівую—веру, якая прынесена на зямлю Хрыстом, прапаведываная апосталамі, прынята Царквой і выслаўлена ў сымвале веры? Праверце сябе; бо калі не такая ваша вера, дык вы не маеце веры; а як ня маеце веры, то няма ў вас і вечнага жыцьця.

„Кожны, хто перəступаець, а не прабываець, у навуцэ Хрыстовай—пішаць сьв. ап. Іван Багаслоў — ня маець Бога" (II пасл. I, 9). А сьв. Амбросі дадаець:

„Калі адзін пункт скасуеш,—скасуеш і сваё спасеньне".

Але не застановімся на гэтым. Самая цьвёрдая і шчырая вера нічога няварта калі яна бяз добрых спраў і адпаведнага жыцьця.

„Якая карысьць, брацьця мае—пішаць сьв. ап. Якуб,—калі хто кажаць, што веру маю, а дзел ня маю? Вера калі дзел ня маець, мёртвая сама па сабе... Ты веруеш, што Бог адзін добра робіш і бесы веруюць, але дрыжаць“ (Як. II, 14, 17, 19).

Так вучыць сьв. ап. Якуб. Гэта належыць нам ня толькі ведаць у адносінах да навукі нашай веры, а зрабіць самы дакладны выпыт нашага ўнутранага жыцьця і павадзэньня.

„Хто знаходзіцца ў навуцэ Хрыстовай, той маець у сабе і Айца і Сына“,—выясьняець сьв. ап. Іван Багаслоў (II пасл. 1,9). Калі Ісус Хрыстос ў нас, Ен у нас жывець. Гэта сумненная адзнака, па якой вы маеце магчымасьць даведацца ці ў веры вы, гэта жыцьцё Ісуса Хрыста, паўторана ў вашай душы. Хто веруець у Ісуса Хрыста, той чыніць тыя дзялы, якія Ен чыніў. (Ін. XIV, 12.) Хто кажаць, што пражываю ў Ісусе Хрысьце, той мусіць жыць так, як жыў Сам Ісус Хрыстос. (Ін. II. 6; IV, 17). Няма іншага хрысьціянскага жыцьця, апроч жыцьця Хрыстова ў хрысьціяніне: няма праўдзівага хрысьціяніна, апроч таго, хто выяўляе Хрыста ў сваім жыцьці.

А ці адчуваеце вы ў сабе жыцьцё Хрыстова? Ці стараецеся вы выяўляці ў сабе і цераз сябе славу Божую, як Хрыстос явіў славу Айца Свайго нябескага? Ці жыва любоў ваша да бліжнага? Любячы бліжнага, ці любіце яго той шчырай любоўю, якой палюбіў нас Хрыстос, атдаўшы сябе за нас і якая еднаець аднаго вернага з другім, бо ў сэрцы аднаго і другога прабываець адзін і той самы Ісус Хрыстос? (Ін. III. 14)· Ці дбаеце вы пра вечнае жыцьцё, або прынаймней ці запечатавалі справы вашы Духам Ісуса Хрыста?

І ў вашых радасьцях ці відаць Той, хто будучы на вясельлі ў Кане Галілейскай, выяўляў сабою ціхую і чыстую радасьць і для Каго сямейнае сьвята служыла прыводам для дабрачыннасьці і спасіцельнай навукі? У вашых горы і смутку ці можна бачыць Таго, хто плакаў над няверствам людзей і бліскім зруйнаваньнем Ерузаліму і спачуваў людзкім гору і смутку? Калі вы размаўляеце, ці адчуваеце ў бяседах вашых Таго, хто адкрыў вустны Свае дзеля таго толькі каб сьведчыць праўду, або навучаць слухачоў праўдзе, або даць ім уцеху і благадаць ці перасьцерагчы іх ад злога? Калі вы бярыцёся за працу, то ці бярыцё вы сабе за прыклад так сама Яго Хрыста, які чыніў усяку праўду Божыю (Мат. III, 15)? А наагулу, ўсякай дзеяльнасьці вашай, у ваўсім павацжэньні вашым ці насьлядуеце Таму, Хто радасьць сваю чэрпаў у законі Айца Свайго Нябескага, аб законе гэтым размышляў дзень і ноч; Хто заўсёды рабіў угоднае Айцу Свайму Нябескаму (Ін. VIII, 29)?

Выведайце і праверце сябе. Калі вы ня маеце ў сабе жыцьця Хрыстовага, дык і Хрыста няма у вас, а хто Ісуса Хрыста ня маець у сабе, той ня маець веры і таго дажыдаецьстрашная будучына—страта вечнага жыцьця... Памысьліце над гэтым!

Господ усё зрабіў, каб удзержаць нас. Ен для гэтага на зямле заснаваў Царкву Сваю, непераможную для зла-храніцельніцу бажэсьцьвеннай благадаці; палажыў ей сем таінстваў, як крыніц, з якіх ліецца на верных благадаць Духа Сьвятага; паслаў слуг сваіх—пастыроў і вучыцеляў з вялікаю прапаведзю: „Хто не бязумец, ідзі да Мяне“ (Прык. IX, 4).

Прыдзіце ж да Яго, прыміце Яго і неразлучна жывіце з Ім.

⁂⁂⁂⁂⁂⁂⁂

## Казаньнэ у 5 нядзелю пасьля Тройцы.

Евангг. Мат. VII, 34.

Дзіўныя тыя людзі зямлі Гадаранскай, аб каторых апавядала нам сягоньнешна Евангельля! Прышоў да іх нябескі чудатворац і Вучыцель ісьцяліў беснаватага, ашчасьлівіў несчаснага пакутніка, а цэлы горад і ўсю акалічнае жыхарства пазбавіў ад небясьпекі, якую рабіў беснаваты. Паваліцца б у ногі Такому чудатворцу, слухаць б Яго, прасіць б Яго застацца наболей, на заўсёды... А замест гэтага... увесь горад, увесь народ выхадзіць да Яго і прасіць, каб Ен пакінуў іх горад.

Дзе ж прычына такой грубай, такой абразьлівай просьбы? Слова і дзела Господа ўзварушыла звычайнае грахавотніцкае жыцьцё Гадарань; унясло неспакой ў іх бесклапотны настрой; яно разбудзіла іх ад сну духоўнага,—напамніла пра Бога, пра закон, пра істнаваньне і патрыбы суха...—Вось длеля чаго баяліся Гадаране Хрыста, адкуль пахадзіла гэткая незвычайная просьба Гадарань? — З іхнага грэшнага запсутага сэрца.

Вечна гэта гісторыя. Бязконца яна паўтараецца. Мяняецца яе толькі павярховы выгляд і форма; зьменіваецца толькі яе вонкавая грубасьць, а суць яе застаецца ўсё адна і тая самая. І ў цяперашнім жыцьці у настроі, справах і паводзінах сучасных нам людзей можна лёгка бачыць гэткія самыя адносіны да Хрыста, якія выявілі ў часы Яго зямнога жыцьця Гадаране.

Паглядзіце наўкруг сябе. Хіба вы не пачуеце сярадзітыя просьбы Гадарань: „Ідзі сабе ад нас—з Тваім законам, Тваей навукаю, Тваім напамінаньнем аб высшых пытаньнях

і патрэбах; ідзі сабе з нашага жыцьця, з нашых звычаяў, з цэлага нашага быцьця". І атдаляюць ад сябе Хрыста вучоныя і невукі, бедныя і багатыя, прасьцякі і інтэлігэнты, атдаляюць ня толькі Хрыста, а і ўсё, што напамінаець ім Хрыста або што можаць прывясьці да Яго; пакідаюць Царкву, малітвы, пост, рэлігійныя звычаі хрысьціянскія запаведзі і пастановы; ня толькі ўсё гэта вылучаюць з свайго жыцьця, а навет часта прасьледываюць сьмехам, здзекамі, каб і другі „страху радзі" адступіліся ад Хрыста.

Часамі кажуць, што хрысьціянскую веру дзіка і злосна застаўляюць або выкідаюць, бо розум ня можаць яе прыняць, дзеля таго, што яна перэчыць асновам навукі. Няпраўда! Сучасныя няверцы і малаверцы нічога супольнага з навукаю ня маюць яны знаюць яе толькі з чужога голасу; прачыталі дзьве-тры бязбожных кніжачкі, а часам і нічога ня чыталі, а толькі паслухалі нейкага аратара. Ня знаюць яны, і ня хочуць знаць, што самыя вялікія вучоныя былі найбольш веруючымі людзьмі, як у даўныя часы, так і ў навейшыя; што самыя культурныя, адукаваныя і інтэлігэнтныя народы найбольш веруючыя. Пакажу, як напрыклад, што адзін з выдатнейшых вучоных новага часу, якім гордзіцца ўся Францыя, Пастэр сьмела сказаў:, „я шмат чытаў і мысьліў і цераз гэта верую так, так брэтонскі селянін; калі б я быў больш вучоны, дык вераваў бы, як брэтонская сялянка".

Ня хочуць разумець няверцы, што толькі вера ёсьць заранкай нашага жыцьця, што толькі яна адна ёсьць падпорай супольнасьці, асьвячаець сужэнства і сямью; даець уцеху ў бядзе і няшчасьці; змацняець нашы радасьці і ёсьць нявычэрпаная крыніца ўсякага дабра і благаслаўленьня.

Дзе ж аднак прычына няверства гэтых людзей? Прыгледзьцеся да іх і ўвідзіце, што тут самую галаўную ролю і выключнае значэньне маюць толькі пеўны настрой сэрца, нахіл людзкой волі,—увесь духоўны склад чалавека, у якім ня розум упраўляець сэрцам, а наадварот—сэрца розумам. А як сэрца ў гэтых людзей сапсутае і нячыстае, дык і няможаць яно быць з праўдаю Божыею, пачынаець барацьбу са сьвятасьцю, перамагаець усе заклікі духа; так сказаць, зварачваецца да Хрыста з вымогамі, каб ён пакінуў іх. Так паўтараецца гісторыя евангельскіх Гадарань.

Ды ня толькі няверцы ідуць сьледам за евангельскімі Гадараньмі.—Навет там, дзе гаворыць аб Хрысьце, як аб Сваім Госпадзе; дзе на словах клічуць да яго, а на дзеле даюць прыклад гадаранскага адступніцтва. Хто не спатыкаў, так званых, евангельскіх хрысьціянь або штудыстаў? У руках кожна з іх евангельле, на вустнах тэксты сьв. пісьма, а ў сэрцы і жыцьці... загляніце туды і вы спалохаецеся: там вы не знайдзеце Хрыста Ісьціннага, Евангельскага; яго там

няма; Ен выдален з яго штундіцкай навукаю, а заменен на Хрыста іншага не евангельскага.

Хрыстос, якога ўяўляюць сабе штундысты, і якога толькі яны прызнаюць за адну веру даець чалавеку і праведнасьць і бязрэшнасьць і спасень. А Хрыстос, Які прапаведуець: „цярплівасьцю вашай спасайце душы вашы (Лук. XXI, 19); Які запаведуець „вускія дзверы і цесную дарогу“ да царства нябеснага і наказваць маліцца за атпушчэньне грахоў сваіх,—, такога хрыста штундзіст ня хочаць знаць, у Яго вераваць. Інакш кажучы, зварачываецца да яго са славамі просьбы Гадарань, каб Ен вышаў проч з ваколіц нащых.

О, гэта ня ёсьць зьмірэнае прызнаньне сваей нягоднасьці, ня ёсьць гэта скромная малітва ап. Петра: „выйдзі ад мяне, Госпадзі, бо я чалавек грэшны“ (Лук. V, 8). Ня ёсьць гэта і жаданьне з пабожнага страху стаяць каля парогу Дому Божага, спаведаючы грахі свае, б‘ючы себе ў грудзі, з жаданьнем сардэчным і смуткам ад блізасьці к Богу... Не, гэта сьмелае, бестрашнае жаданьне выдаліць ад сябе хрыста, сябе зрабіць і асноваю дзеяльнасьці... Гэтак жывуць Гадаране і не ўміраюць.

Але жыў і Хрыстос з вернымі ўчора, сягоньня. Ен жа і навекі (Евр. XIII, 8). І калі сучасныя Гадаране -- няверцы намагаюцца выдаліць ад сябе, ад свайго жыцьця Хрыста: то мы, верныя, тым больш павінны пільнавацца каб, быць нам не разлучна з Ім,—нашым Спасіцелям, зьвешчаючы словам і жыцьцём Яго славу, сілу і дабрадзейства яго. Амін.

********

## Казаньне у 5 нядзелю па Тройцы

У чытаным сяньня Евангельлі, мы чулі аб двох беснаватых з зямлі Гэргесінскай, якіх доўгі час мучыла нячыстая сіла і якіх ісцаліў Гасподзь Ісус Хрыстос. (Мө. 8, 28—34).

Калі нячыстыя сіла бязлітасна мучаець на зямлі тых людзей, якія знаходзюцца ў іх уладзе, то тым цяжэй мукі грэшных у пекле, ў мейсцу іх жыцьця.

Цяжка жыцьцё грэшных на тым сьвеце навет страшна і думаць ня толькі гаварыць, але засуджаныя на вечныя мукі сваім не хрысьціянскім жыцьцём на гэтым сьвеце мусяць па-

нясьці заслужонаю кару, на тым сьвеце бо мелі перасьцярогу праз Адзінараднага Сына Божага, і на зямлю прышоўшага дзеля таго, каб вызваліць людзей ад вечнай пакуты. Галаўныя мукі грэшных ў загробным жыцьці ёсьць раскаяньне ў тым, што самі пазбавілі сябе Царства Нябеснага, самі адвярнулі сябе ад твару Божага.

Мукі грэшнікаў цяжкі і страшны і гэта мы відзім з жыцьця некаторых людзей, памершых, а потым вернутых да жыцьця. Папа рымскі сьв. Грыгор Дваяслоў, жыўшы ў канцы шостага веку, расказывае, як адзін знатны рымскі муж Стефан, будучы ў Візантыі па справах, памёр і быў прыведзен ў пекла і убачыў там многая, чаму раней ня верыў. Судзя да якога яго прынялі, ня прыняў, сказаўшы: „Не яго, я казаў прывесьці, а Стефана—Каваля“.

Памёршаму было зварочана жыцьце, а Стефан-каваль, што жыў побач з ім памёр. Такім чынам знатнаму мужу Стефану, сьмерць Стефана-каваля, даказала, што словы, якія ён чуў, і усе што відзеў, была праўда і справядлівасьць. Шмат гадоў потым памёр і рымлянін Стефан ад маравой язвы і быў пакараны пякельнымі мукамі.

Ад гэтуль ясна відаць, што паказаныя мукі адным ідуць на карысьць, другія ж горш гібнуць, бо не хацелі пакінуцьзлога, не хацелі папрaвіцца. Карысным будзе для нас, калі мы часьцей будзем успамінаць страшэнныя мукі, чакаючыя грэшных, ў загробным жыцьці. Гэта не пагроза, гэта праўда. Бог шмат каго карае на зямлі за грахі рожнымі вялікімі пячалямі і страданьнямі, але ці шмат папраўляецца?!

Госпадзі! памажы нам! Госпадзі памілуй і спасі нас!

Амін.

*********

## Казаньне у нядзелю 6 па Тройцы.

„І прышоў Ісус у свой горад. І прынясьлі да Яго расслаблага. які лежаў на пасьце-
Мат. IX, 1—2.

Прыгожы прыклад жывога спачуцьця міласэрдзія! Ен заклікаець да насьледаваньня кожнага з нас; „рабіце і вы гэтак сама“—кажаць кожнаму з нас. Па гэтаму, як увідзіш чалавека нядужага, нешчасліваго, ці наагул патрабуючага чужой помачы, ня будзь цьвёрды, нячулым і гардым; не замыкай свайго сэрца, не апраўдывай сябе перад сваім сумленьнем цежарам, а пасьпешай з дапамогаю туды, дзе яе патрабуюць.

Тады сэрца тваё будзе спачутлівым і міласэрдным; ты выпаўніш адну з галоўных запаведзяў евангельскіх; явіш сабою праўдзівага вучня хрыстова і не на слове толькі, а на дзеле; ты паследуеш тады свайму Госпаду Ісусу Хрысту, які па слову прароцкаму: „узяў на сябе нашы немачы і панёс нашы болі (Мат. VIII. 17).

Спачуваньне ёсьць здольнасьць сэрца страдаць чужой пакутай, чужым гарам; разумець гэтыя страданьня і і старацца памягчыць іх, спасабамі даступнымі ў гэту мінуту. Хочыце аценіць і зразумець вялікае значэньне гэтай здатнасьці хрысціянскага духа?—дык зьвярніце ўвагу на значэньне для яго страданьняў і смутку.

Страданьня і скарботы ачышчаюць душу. Скарботы выклікаюць сардэчную сукруху, і прызываюць чалавека да разсудлівасьці; яны прымушаюць яго задумацца над сабою, абмеркаваць свае ўчынкі, сваё слова, думкі пачуваньня. Яны змушаюць чалавека абсудзіць сябе за ня ўстрыманнасьць ці за неабераганьне; змушаюць аплакаць неразумныя ўчынкі. Яны ж паказываюць чалавеку і дарогу разумнага павадженьня. „Добра мне—маліўся прарок Давід—што Ты зьміры́ў мяне, каб я навучыўся закону Твайго „(Пс. 118, 71)“ Шчасьлівы чалавек, якога Ты караеш. Не зьневажай кары Гасподняй“ (Прыг. III, 11); „Як прыступаеш служыці Госпаду, прыгатаўляй душу тваю на спакусу“ (прэм. II, 1). Так і хрыстос сказаў: „у свеце скарботы мець будзеце (Ін. XVI, 13), і паказаў вучням „вузкія дзьверы і цесную дарогу,“ да спасеньня душы. (Мт. VII, 14). Гэтак усхваляюцца сьв. Пісьмом скарботы, як спосаб, што выховываець душу.

Скарботы выклікаюць любоў і еднаюць людзей, досаць чужых. Ведома, што нявольнікі, набраныя з розных старон, сабраныя ў адным месьце, хутка зблізжаюцца: іх еднаець супольная гора. Гісторыя сьв. мучанікаў кажаць тое самое. Незнаёмыя перш адзін аднаму, ніколі ня бачылі адзін другога, а спаткаліся на месцы катаваньня і мук, вітаюць і падтрымовываюць адзін другога.

Скарботы будуюць памяць пра Бога, патрэбу незямной помачы, успамінаць неба і шукаюць неба і шукаюць дарогі да яго. „Як трывога-то да Бога“,—кажаць наша народная прыказка, а жыцьцё ўсюды і заўсёды даець тысячы вялікіх і малых доказаў, што гэта запраўды так ёсьць. Хто шчырэй моліцца Богу?—нешчасны. Сярод каго глыбейшая і мацнейшая вера?—сярод беднякоў і страдальцаў. Так уплываюць на душу чалавецкую гора і мукі і яны ачышчаюць яе, адраждаюць і напраўляюць на дарогу дабра.

У спачуваньні душа прадоўжываець справу свайго выхаваньня, яна хварэець мукамі чужымі, перажываець іх, як свае. Для спачутлівага не патрэбны заклікі з боку нешчаснага: ён сэрцам сваім адчуваець цяжкі стан бліжнага ясна сазнаець, якія душэўныя мукі прыносюць яму тое ці іншае нешчасьце і пасьпешаець да яго. Пасьпешаець—каб памагчы тым способам, які ў даную хвіліну для яго магчымы: грашамі, хлебам, адзежаю ці працаю. А калі ў руках няма нічога, калі ён сам бедны,—ён прыносіць з глыбіні сэрца шчырае слова спачуваньня. І нешчасны, як малое дзяцё, ахвотна слухаець слова спачуцьця, ахвотна веруець яму, раскрываець перад ім сваю набалеўшую душу і плачаць сьлязьмі, што палягчаюць душу. Гэтак выяўляецца ўся прыгажосьць душы жаласьлівай, гэтак яна удаскальняецца і выхоўываецца у ей тая старана, што робіць з зямнога чалавека нябескага Ангела-Уцяшыцеля.

Спачутлівая душа умеець балець і страдаць навет за тых людзейі што самі не адчуваюць свайго болю і ня бачуць свайго нешчасьця. Гэткая душа скарбеець навет за грахі і памылкі бліжнага. Апостал Павел, напрыкл. страдаў душой сваей і плакоў за тых грэшных, што грашылі.

„З вялікай скарботы і тугі сардэчнай напісаў я вам з многама сьлязмі“,—так зварачываецца ён да корынфскіх хрысьціянь—(II кор. II, 4). „Хто зьнемагаець,—кажаць ён у другім месці—каб і я не зьнемагаў. Гэткія смутак вышэй усякай іншай мірской радасьці, гэткія сьлёзы, што паходзяць ад душы боголюбівай, ад спачуцьця шчырага, ёсьць крыніца радасьці. Хто столькі балееець за грахі чужыя, той яшчэ больш балееець за свае грахі; той навет няскора і нялёгка саграшыць.

Запраўды, „большае шчасьце даваць, чым прымаць“ (Дн. XX,35). Набываець і багаціць сябе, больш той, хто дець, чым той, хто бярэць. Гэтак і спачуцьце і спачуваньне падаравана Госпадам дзеля дабра больш тым, хто спачуваець — чужому страданьню, чым тым, хто страдаець. Дзеля гэтага будзім прасіць Госпада, каб Ен даў і нам здатнасьць шчыра плакаць з тымі, што плачуць; жалець нешчасных і балець чужымі болямі.
Ісусе Наймілейшы! Зьмякчы маё сэрца.

Амін.

## Казаньне у дзень сьвятога прарока Ільлі (20 ліпня).

„Вялічаем цябе, прароча Ільля услаулены, і паважаем на неба з плоцьцю вогненнае усходжаньне твае“.

Каму не вядома імя вялікага прарока і ўгодніка Божага Ільлі? Па ўсім хрысьціянскім сьвеце праваслаўным сьвяткуецца памяць гэтага вялікага мужа, па малітве якога неба зачынялася на тры з палавінай гады і ад слова якога ізноў лінуў дождж на зямлю і пала раса. Чуць ня тры тысячы гадоў прайшло з таго часу, як жыў паміж людзей гэты сьвяты прарок Божы, і жыў у тыя часы, калі любімы Богам народ ізраельскі адвярнуўся ад свайго праўдзівага Бога, перамяніў Яго на ідала і стаў служыць яму, як жывому Богу, які ў працягу некалькі вякоў выбаўляў народ ізраельскі ад усякіх нешчасьцяў і бяды, пагібелі і сьмерці.

Паганны быў цар ізраельскі ў гэты час Ахаў з сваей царыцай Іезавель. Яны нятолькі самі зрадзілі праўдзіваму Богу, але і ўвесь народ свой перацягнулі ў ідалапаклонства. Пры палацу цара была выбудавана капліца глаўнаму ідалу Ваалу, у якой быў пастаўляны балван самага ідала Ваала, якому служыла многа жрацоў, якому пакланяўся сам цар разам з усім сваім народам.

Прагневаўся Госпад Бог на некалі-што любімых сваіх ізраільцянаў за іхную зраду і паслаў Ен да людзей Свайго шчырага слугу і строгага абвінаватчыка Ільлю, каб той словам сваім навярнуў сэрцы людзей да іх праўдзівага Бога. Але жорсткае было сэрца ў зрадніка-народу і дзеля гэтага жорсткую кару паслаў Госпад на царства ізраельскае.

„Жыў Госпад Бог ізраеляў, хай нябудзе ў лета гэта ні расы ні дождж у па слову вустнаў маіх“, сказаў прарок. Божы Ільля і кара Божыя пасьцігла ідалапаклоннікаў-ізраяльцянаў. Тры гады з палавінай пякло сонца блудную зямлю. Зачынілася неба на тры гады шэсьць месяцаў і не дало ні капелькі дожджу і ні капелькі расы. Ад страшэннай пякоты ўсё засохла. Прапала ўсякая расьлінасьць, настаў мор, голад. Уміраў народ, прападала скаціна ад смагі і хваробаў, якая началася адразу, як высахла вада ў студнях, рэках і возерах. Так быў пакараны Богам за адступленьня ад праўдзівай веры народ ізраельскі.

І ўзыйшоў на гару Кармільскую прарок Ільля і памаліўся Госпаду Богу. Паказалася на небе невялічкая хмарка, якая хутка разыйшлася вялікай тучай па ўсяму небу і пашоў на высахшую зямлю дождж, які напаіў яе вадой ізноў усё зазелянела, аджыло ад молітвы прарока. Але нятолькі расу і дождж

мог словам сваім адзержываць і не даваць зямлі прарок Ільля. Нябесны вагонь па слову Божага прарока падаў на зямлю і паліў ворагаў прарока.

Сьвятая Біблія апеведаець нам, як другі цар паганы Ахозія, звап ўшыся з вакна, сьмяртэльна пабіўся. Лежучы на пасьцелі пры сьмерці, паслаў ён паслоў да Ваалавых жрацоў запытацца: аджывець ён ці памрэць.

Калі пасланцы ішлі да свайго ідала іх пераняў прарок Ільля. Ен стаў сароміць іх і іхнага цара, кажучы: хіба ш няма Госпада Бога сярод ізраільцянаў, што вы ідзецё пытацца ў паганага ідала? Ідзіце і скажыце цару свайму, што за няверства ён ня сойдзець з пасьцелі сваей і памрэць". Калі пасланцы вярнуліся да цара з гэткай весткай, цар стаў пытацца, які той чалавек, каторы сказаў словы Бога праўдзівага. Пасланцы адказалі: „Муж касматы і паясом скураным падпіразаны на бёдрах сваіх".—„Ільля Өесвіцянін гэта"—дагадаўся цар і выслаў да прарока Ільлі старшыню, соцкага і пядзесят салдатаў каб прывялі да яго прарока. А Ільля сядзеў у гэты час на гарэ. Прышлі да яго салдаты з начальствам сваім і кажуць Ільлі прароку: „Чалавек Божы, цар завець цябе к сабе". „Калі я чалавек Божы"—адказаў прарок Ільля—„дык няхай спадзець вагонь нябесны і паесьць цябе і тваіх салдат з табой разам"—і раптоўна зваліўся з неба вагонь і ўсіх іх папаліў.

Ізноў пасылаець цар Ахозія яшчэ пядзесят новых салдатаў. Ізноў старшыня кажаць прароку: „Чалавек Божы, цар трэбаваець цябе к сабе ідзі да яго хутчэй". І гэтаму прарок Ільля адказаў тоя самае, што першаму і другі раз зваліўся з неба вагонь і папаліў усіх салдатаў і начальнікаў. Нарэшце, прыходзіць трэці старшыня з салдатамі. Але гэты укленчыў перад прарокам і стаў прасіць: „Чалавек Божы, пашкадуй маю душу і душы рабоў тваіх: ужо два разы сходзіў з неба вагонь і паліў салдатаў і начальнікаў іх, цяпер няхай пашкадуюцца нашы душы—рабоў тваіх"... Тады толькі з'явіўся ангел Божы Ільлі і сказаў: „Ідзі разам з імі і ня бойся іх" і толькі за трэцім разам з гэты пасланцамі пашоў прарок к паганскаму хвораму цару.

Дзіўныя былі апошнія мінуты жыцьця на зямле гэтага вялікага прарока, катораму павінавалася неба, якога слухаліся вагонь і маланьня. Не памёр Ільля-прарок, гэткай сьмерцю, якая дожыдаець нас грэшных. З целам чалавецкім ён узяты на неба на чудзеснай павозцы вогненнай, запрэженай такім сама белаcьнежнымі вагненнымі канямі. І істнуець вера ў нашай Царкве сьвятой, што Ільля прарок перад Божжым страшным судом прыдзець з неба на зямлю, каб тут прарочываць ізноў і каб тут скончыць сваё жыцьцё так, як заканчываець яго ўсе нараджоныя на зямлі.

Сяньня-ж праведнік Ільля, сьвяты прарок, ка небе ў вечных Божыях сялібах царствуець разам з Госпадам Ісусам Хрыстом. Сяньня ён там целам чалавецкім славіць Бога. Сяньня на яго малітвах сонца пячэць, неба зачынілася і вільготнасьці няма, а заўтра—глядзіш—дождж з неба вагонь і гром ад вялікіх малітваў таго самага вялікага прарока Ільлі падаюць з неба на нашу ідалапаклонніцу грэшную зямлю.

Няхай жа сьвяткуецца сяньня сьвята прарока другога прыходу Хрыстовага—Ільлі. Няхай неперастаюць яго малітвы перад прастолам Божым аб нас дзень і ноч. Няхай пасылаемы ім вагонь нябесны не паядаець ні нас, ні нашы домы, ні наша збожжа на полі і ў гумнах. Няхай стыхія вагненная служыць толькі для ачышчэньня паветра і для нашага здароўя. Ты ж, сьвяты прарочa, малітвамі тваімі усьцеражы жыцьцё наша, сялібы і палеткі ад вагня нябеснага і засушы, ад церазмернага дажджу—патопу, ад граду сьмэртэльнага, аб навальніцы, буры, каб нам заўсёды сьветла і радасна сьвяткаваць тваю памяць.

Амін.

## Казаньне у 7 нядзелю па Тройцы.

Евангг. Мат. IX, 33—33.

Слова!.. Які гэта вялікі дар Божы! Словамі выяўляем свае патрэбы; цераз слова ўхадзіла ў нас еднаньне з блізнымі нашымі, пры дапамозе слова мы служым Богу, прыносючы Яму ахвяру хвалы.

Але ні адным дарам Божым людзі так часта не злоўжываюць, як словам і вустнамі сваімі. „Усе мы багата грашым“ — кажацьСьв. Пісьмо:—калі хто не грашыць словам, той чалавек дасканальны, сільны удзержаць і ўсё цела“ (Іак. III. 2).

Ня будзем успамінаць пра ману, ашуканства, абмаўляньне дзе слова— прыкраса няпраўды, дзе яно бываець горшым чым варожа куля. Зьвернем увагу толькі на тое злоўжываньне словам, якое сустрачаецца дужа часта, на кожным кроку; ад якога ніхто можа ня вольны і на якое

прывыклі глядзець, як на з'явішча звычайнае і незначнае. Два выпадкі заслугоўваюць найбольшай увагі.

Першы. Бываюць у жыцьці кожнага з нас мінуты, калі нас дратуюць, крыўдзюць. Растрывожыныя мы ня можам здзержаць сябе, бо ня ёсьць панамі над сабою і людзьмі дасканальнымі. І вось з вустнаў нашых вырыввецца нядобрае слова, нядобрыя пажаданьня, ці злый праклён. Мінаець хвіля; злосьць прайшла; злое слова заоўклам і замянілася ўжо словам спакойным і лагодным, аш да новага выпадку. І колькі разоў у дзень паўтараеццагэта самае.

Дзень мінаець за днём. І колькі зла сеяцца словамі ў хвілю разнэрваваньня. Прасачыце за сабой хоць адзін дзень толькі і забачыце, які страшны сьлед пакідаець за сабою неасьцярожнае слова і колькі зла цераз нестрыманы наш язык уліваецца ў жыцьцё. І якія жахлівыя насьледкі бываюць ад гэтай неасьцярожнасьці і не ўсрыманнасьці! Паглядзіце на прыклады.

Маці занята. Яе растраіваюць крык, сварка, сьлёзы і бойка дзяцей. Яна сьцішаець іх: крычыць, караець. Дзеці змоўклі, а цераз мінуту і зноў крык, шум, галас... Ня вытрымала ўжо маці, траціць самаўладаньне і з яе языка зрываецца клядба. І якія клядба! — злыя, сорамныя і без разбору... Мінець хвіля, іншая маці схамянецца, пашкадуець, асудзіць себя і грызець сабе, сапсуваўшы сабе так на доўгі час настрой. А іншыя мацеры так прывыклі лаяць і праклянаць, што злыя словы сыпюцца з ранку да ночы. І не зварачваюць увагі на тоя, які пажаданьня яны выказываюць, каму або чаму пасылаюць сваіх дзяцей. А дзеці слухаюць словы сваей мацеры, запамінаюць іх, пачынаюць самі ўжываць іх, спачатку паміж сабой, а далей у адносінах да старэйшых і на рэшце—да родных бацькоў сваіх... І плачаць горкімі сьлязамі не адна маця, наракаючы на сваіх нядобрых дзяцей. А хто ж вінават гэтаму? — Сама маця ёсьць першая прычына свайго нешчасьця, бо яна першая паказала на сабе сваім дзецям прыклад злосьці, а ў злосьці навучыла іх славам лаянкі і клядбы.

Або яшчэ прыклад. Жонка недаволена сваім мужыком, і зноў — клядба, лаянка, паскудныя словы... Мужык сваім парадкам разыйшоўшыся, не шкадуець слоў і адказываець сваей жонцы тым самым. І вылiваюць адзін на другога што паболей усякага славечнага і маральнага бруду, стараючыся знайсьці, як можна болей абразьлівых слоў; выкрываюць такія пажаданьня, ад якіх страх абаймаець навет чужога чалавека. І ўсё гэта робіцца дужа часта пры дзецях. І жыцьцё гэткага сужэнства робіцца агідным, абарачываецца ў пакуту і робіцца пекла яшчэ на зямлі. Адна хвіля—а колькі грэху кладзецца на душу, сколькі, зла плодзіц-

ца ў жыцьці. Заўваж гэта і стрымайся! Як пачуеш, што на цябе находзіць такая мінута разнэрваваньня і злосьці, успомні пра Бога, скажы малітву да Ісуса Найміласэрднейшага:

„Госпадзі Ісусе Хрысьце, Сын Божы, памілуй мяне грэшнага“:

Звярніся ў сэрцы сваім да Прычыстай Мацеры Яго Дзеве Марыі:

„Прасьвятая Богородзіца, спасі нас!“

І злосьць зьнікнець,—раздражнасьць мінець, злое слова не сарвецца з языка і ты ў душэ мець будзеш спакой.

Другі выпадак. У грамадзкіх справах, у жыцьцёвых турботах нам прыходзіцца шмат гаварыць. Але як часта да слова патрэбнага і неабходнага мы прымешываем і слова пустое і непатрэбнае, і як паганім сваю душу балтаўнёй!.. Звычайна бываець так. Спачатку мы слухаем моўчкам гаварлівых людзей, далей падтрымовываем іх бяседу і прымаем у ей жывы ўдзел. А потым уходзім у смак пустой размовы, захопліваючыся ей, дадаём ад сябе жарты, двузначныя выразы і даходзім да шырокага пустамоўства.

Як жа ўплываець пустамоўства на нашу душу? Заняты размоваю аб зямным, чалавек ня маець часу, гаворыць, мысьліць і слухаць пра Бога, Яго праўды: сэрца не дбаець аб небе,—ужо для яго як бы не істнуець; душа, атдаўшыся жывотным драбніцам, ахалаждаецца да ўсяго высокага незямнога.

Гэтак бывае, калі чалавек аддаецца размове аб зямным. І чым сільней яна каго захваціць, тым мацней прывязваець яго да зямлі; тым далей атводзіць ад неба. А пустамоўства паганіць душу яшчэ больш. Пустое слова вымагаець лучнасьці сьмеху, вясёласьці. Такім чынам прымешваецца да зламоуства абгавор, высьмехі. І ліецца ручэй слоў без асьцярогі і без патрэбы. А як праз гаворку забываецца развага, дых няма магчымасьці цьвяроза паглядзець на сваё слова, перасьцерагчы і асудзіць ў ім злое. А каліб паглядзелі б на дзеле простымі вачамі, дык зжахнуліся б, увідзўшы, як ахаладзела іхнае сэрца, як нізка спусьціліся да долу іхныя інтарэсы, як далёка ад іх неба, як сьцюдзена іхная малітва і недаходна Богу.

Вось радзі чаго хрысьціянскія падвіжнікі для высшага звяршэньня сваей душы пакладалі на сябе зарок маўчаньня. Маўчаньнем рабілі затвор сваей душы, давалі магчымасьць сабіраць і аб'еднаць усе свае сілы, узмацаваць іх, забясьпечыць іх ад падчыненьня ўразе спакусы. І дзўна—маўчаньне прывучала шанаваць і цаніць слова. Калі маўчальнік адкрываў вустны свае, дык ніхто ўжо ня чуў ад яго пустога ці

гнілога слова, а толькі малітву, добрую навуку, мудрую параду, палягчэньне і духоўную ўцеху.

Падвіг маўчаньня, як вялікі зазначан Богам цераз дар чудатварэньня. Бог даець маўчальнікам асобную сілу прозорлівасьці, чуець і спаўняець жаданьня іх і благадаць Яго відзіма пануець на іх.

Пачуець Госпад і супоўніць усе вашы просьбы, калі вашы думкі будуць чысты; калі сэрца ваша ў мірскім жыцьці не астынець любоўю да неба; калі язык ваш ня будзе апаганены словамі абману, маны, абгавору і нецярпеньня. Хто для Бога жывець, з Богам вядзець размову, то і Бог чуець таго і скора спаўніць жаданьня яго.

Дзеля гэтага стрымовывай язык свой, адкрывай яго для малітвы, падзякі і хвалы Божыей. Каліж пасля гэтага пачуеш патрэбу вадкрыць вустны свае, дык раскрывай іх толькі для слоў праўды іісьціны любові і спачуцьця, навучаньня і направы ў духу ісьціны. Гэтак жывучы, ты спасесься. Амін.

Свяшч. *П. Табінскі.*

ЖЖЖЖЖЖЖЖ

# Зьмест сш. 1.



********

**Дадатак да № 10 „Праваслаунага Беларуса“**

**Рэдактар-Выдавец IВ. ПАЧОПКА.**

Drukarnia Synodalna. Warszawa—Praga, Zygmuntowska 13.